Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 31 сакавіка 1999 г. № 35 (566) Кошт свабодны

***Шаноўныя чытачы!***

***На працягу некалькіх месяцаў мы атрымоўвалі анкеты, у якіх вы выказалі свае пажаданні па паляпшэнні нашай з вамі газеты. Мы зрабілі высновы і, нягледзячы на неспрыяльны час, вырашылі пачаць рэфармаванне НАВІНАЎ у адпаведнасці з вашымі пажаданнямі.***

***Першы крок па паляпшэнні газеты будзе зроблены ўжо на наступным тыдні – НАВІНЫ набудуць новае аблічча. Мы спадзяемся, што новы знешні выгляд газеты вам спадабаецца і стане такім жа звыклым, як і ранейшы.***

*Рэдакцыя*




# Праздники и аресты могут совместить

### *Сегодня может решиться судьба политического проекта «президентские выборы-99»*

На 14.00 в гостиничном комплексе «Октябрьский» назначена торжественная церемония официальной регистрации кандидатов в президенты. Михаилу Чигирю и Зенону Пазьняку председатель ЦИК Виктор Гончар должен вручить удостоверения кандидатов в президенты.

Пикантная деталь, которая волновала прессу задолго до объявления церемонии, — кто будет получать свидетельство кандидата в президенты на имя Пазьняка. Как известно, сам Зенон Станиславович скрывается в Польше и возвращаться на родину пока не намерен. Накануне события стало известно, что кандидата на время церемонии решили заменить одним из лидеров фронта Сергеем Попковым. Именно он должен принять из рук главы Центризбиркома свидетельство кандидата в президенты.

На церемонию приглашены главы дипломатических миссий в Беларуси, глава ОБСЕ г-н Вик, а также лидеры партий и руководители правозащитных организаций. На момент сдачи газеты свое присутствие на церемонии подтвердили посольства США, Германии и Италии.

Официальные власти крайне агрессивно реагируют на инициативы вокруг президентских выборов. В связи с чем возможно, что вместо церемонии состоится другое «шоу» — разгон и аресты празднично одетых людей...

Как сообщили в пресс-центре ЦИК, если церемония не состоится до 5 апреля, то выборы можно считать сорванными.

# Аперацыя «Чыгір»

### *Кандыдата ў прэзідэнты ад праваахоўных органаў выратавалі краты*

**15 невядомых асобаў у цывільным спрабавалі ўчора раніцай уварвацца ў перадвыбарчы штаб Міхаіла Чыгіра. У офіс кандыдата ў прэзідэнты яны з'явіліся нібыта дзеля таго, каб перадаць Чыгіру павестку ў міліцыю.**

Па словах сведкаў, гэтыя людзі прыехалі на некалькіх машынах і некаторы час вялі назіранне за штаб-кватэрай. Пасля таго, як у офісе з'явіўся Міхаіл Чыгір, «ціхары» пазванілі ў дзверы. Супрацоўнікі штаба былога прэм'ера папрасілі іх прад'явіць службовыя пасведчанні, але людзі ў цывільным запатрабавалі неадкладна адчыніць дзверы: маўляў, інакш «будзе горш». Пры гэтым невядомыя адразу ж абарвалі тэлефонныя правады ў штаб-кватэры. «Шчыра кажучы, мы спачатку падумалі, што гэта нейкія бандыты», — сказаў прадстаўнік кандыдата ў прэзідэнты палкоўнік Уладзімір Барадач. Тым не менш актывістам перадвыбарчай каманды ўдалося з мабільных тэлефонаў дазваніцца журналістам, якія неўзабаве прыбылі на месца «штурму». Пры відзе фота- і тэлекамер «ахоўнікі парадку» не рашыліся на актыўныя дзеянні і даволі хутка з'ехалі.

Тым часам Міхаіл Чыгір арганізаваў імправізаваную прэс-канферэнцыю. З журналістамі ён размаўляў праз акно офіса. Міхаіл Чыгір чакаў, што ўлады напярэдадні афіцыйнай рэгістрацыі кандыдатаў у Цэнтрвыбаркаме паспрабуюць правесці падобныя акцыі застрашэння. (Нельга ж прымаць усур'ёз версію, што пятнаццаць здаравенных малойцаў прыехалі дзеля таго, каб перадаць Чыгіру афіцыйную паперку). Але ўлады ўсё ж такі спазніліся. Па словах Чыгіра, ён і Зянон Пазьняк ужо зарэгістраваныя ЦВК у якасці афіцыйных кандыдатаў, а сёння ў Мінску павінна адбыцца толькі афіцыйная цырымонія з гэтай нагоды. Праўда, у самім Цэнтрвыбаркаме нам паведамілі, што сп.Чыгір трохі паспяшаўся, і рэгістрацыя адбудзецца ў адпаведнасці з законам — г.зн. сёння. Экс-прэм'ер лічыць, што невядомым хутчэй за ўсё проста хацелася канфіскаваць у яго ўсе важныя дакументы, якіх



у офісе проста не было. Міхаіл Чыгір сказаў, што ўлады актыўна спрабуюць знайсці на яго кампрамат, але безвынікова. Таму Міхаіл Мікалаевіч не выключае, што цяпер яго, Віктара Ганчара і іншых могуць проста арыштаваць. Апасенні былога прэм'ера зусім не беспадстаўныя. Як нам стала вядома, учора міліцыяй былі затрыманыя члены Цэнтрвыбаркама Іосіф Навумчык з Віцебска, Лілія Сазанавец з Ліды, Генадзь Самойленка з Брэста і сп.Закудаеў з Гродна. Усе яны накіроўваліся ў Мінск на цырымонію рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты. Міліцыянты здымалі членаў ЦВК прама з аўтобусаў і цягнікоў. Тым не менш былы прэм'ер упэўнены, што выбары 16 траўня пройдуць нават ва ўмовах рэпрэсіяў. «Людзі жадаюць абраць іншага прэзідэнта, мы ў гэтым упэўніліся падчас збору подпісаў за нашага кандыдата», — сказалі карэспандэнту НАВІНАЎ актывісты каманды Чыгіра.

Падчас выступу экс-прэм'ера перад домам з'явіўся нейкі агрэсіўна настроены чалавек, які пачаў крычаць і нават спрабаваў завязаць бойку з журналістамі. Раз'юшанага адстаўнога палкоўніка, які быў гатовы «расстраляць усіх», ледзь сунялі.

А тым часам кандыдат у прэзідэнты сп.Чыгір разам са сваімі бліжэйшымі супрацоўнікамі пакінуў штаб-кватэру і знік у невядомым напрамку. Некалькі журналісцкіх машын паспрабавалі следаваць за ім, але экс-прэм'ер з атачэннем як сапраўдныя канспіратары ад «хваста» адарваліся.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

***РАССЛЕДАВАННЕ***

# Руслан з «крылышкамі»

### *Баку можа канфіскаваць расійскі «Руслан» разам з МіГамі і арыштаваць беларускіх грамадзянаў*

Другі тыдзень у Баку пад арыштам знаходзіцца расійскі транспартны самалёт «Руслан», на борце якога азербайджанскія мытнікі знайшлі шэсць знішчальнікаў-бамбардзіроўшчыкаў МіГ-21. Згодна з дакументамі, «Руслан» вёз «гаспадарчы груз» з Казахстана ў Славакію. Між тым прэса і нават афіцыйныя асобы Азербайджана не выключаюць, што МіГі перапраўляліся ў Югаславію. Як стала вядома карэспандэнту НАВІНАЎ, у групе спецыялістаў па абслугоўванні самалётаў ёсць і некалькі грамадзянаў Беларусі.

Ужо некалькі гадоў дзейнічае санкцыяваная ААН забарона на пастаўкі зброі ў Югаславію, і столькі ж часу розныя «дзяльцы» спрабуюць прарваць «блакаду» з дапамогай розных хітрыкаў. Не выключана, што гісторыя з расійскім «Русланам», затрыманым у Баку, якраз з гэтага шэрагу.

Паводле першых дадзеных, што з'явіліся спачатку ў азербайджанскім, а потым у расійскім друку на мінулым тыдні, «Руслан» сам запрасіў пасадкі ў бакінскім аэрапорце «Біна». Па дакументах самалёт ляцеў у Браціславу, але калі азербайджанцы даведаліся пра МіГі, лётчыкі варонежскай авіякампаніі «Палёт» заявілі, што «Руслан» вязе самалёты ў Паўночную Карэю як металалом. Закруцілася следства, якое спачатку вяла пракуратура, а цяпер міністэрства нацыянальнай бяспекі Азербайджана. Прасіць за «Руслана» прыязджаў у Баку намеснік расійскага міністра замежных справаў Л.Драчэўскі, але дарэмна. Днямі нават мэр Масквы Юрый Лужкоў размаўляў на гэтую тэму з прэзідэнтам Азербайджана Гейдарам Аліевым. І зноў заступніцтва не дапамагло.



Азербайджанцы не выключаюць магчымасці канфіскацыі самалёта разам з усім яго начыннем — маўляў, былі парушаныя мясцовыя законы і ажно тры міжнародныя канвенцыі. Міністр абароны краіны Сафар Абіеў яшчэ распаліў сенсацыю: пазаўчора ён заявіў, што «Руслан» не прасіў пасадкі, яго прымусілі прызямліцца азербайджанскія самалёты-перахватчыкі. Карацей кажучы, інцыдэнт набывае рысы міжнароднага злачынства. Прычым злачынства з удзелам не толькі расіянаў, але і беларусаў. Па розных дадзеных, на борце «Руслана» знаходзілася ад 4 да 14 грамадзянаў нашай краіны. Усе яны — спецыялісты па абслугоўванні МіГаў, а магчыма, і лётчыкі-настаўнікі. Цікава, што беларусы не былі заяўленыя ў лётных дакументах, знойдзеных на «Руслане». Гэта НАВІНАМ пацвердзіў кіраўнік прэс-службы азербайджанскага ўрада Аціф Мамрамаў. Паводле ягоных словаў, зараз беларусы разам са сваімі расійскімі і казахстанскімі спадарожнікамі знаходзяцца ў аэрапартаўскім гатэлі, але статус «гасцей» для іх можа змяніцца, калі будзе прызнана, што «Руслан» парушыў паветраную прастору суверэннай краіны ды яшчэ вёз кантрабандную зброю.

Якое дачыненне можа мець Беларусь да гэтай гісторыі?

Па меркаванні назіральнікаў, з боку Беларусі гэта нешта большае, чым проста дапамога некаму авіяцыйнай тэхнікай або лётчыкамі-настаўнікамі. Нагадаем, што па выніках мінулага года Беларусь заняла пачэснае 9-ае месца ў свеце па продажы зброі і аказанні вайскова-тэхнічных паслугаў. Нашыя ваўсю гандлююць не толькі танкамі, баявымі машынамі пяхоты, прыцэламі ды вайсковымі ботамі, але і крылатай тэхнікай. Найбуйнейшая са здзелак такога кшталту была заключаная ў мінулым годзе з Перу. Дзяржаўная фірма «Белтэхэкспарт» абавязалася паставіць туды МіГі і рухавікі да іх больш чым на 100 мільёнаў долараў. Па звестках дасведчаных крыніцаў, на рахунку Беларусі і іншыя выгадныя кантракты на пастаўкі самалётаў. Не выключана, што з цягам часу нашыя МіГі могуць апынуцца ў гарачых кропках, у тым ліку і ў небе над Югаславіяй. Гэта ва ўсякім разе не супярэчыць заявам прэзідэнта А.Лукашэнкі, які не раз ужо казаў, што «Беларусь акажа Югаславіі ўсю неабходную дапамогу».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Развал СНД важней за крызіс у СРЮ

**Беларусь збіраецца падняць пытанне пра сітуацыю ў Югаславіі на саміце кіраўнікоў краінаў СНД, які мяркуецца правесці 2 красавіка ў Маскве.**

Аднак у мінскай штаб-кватэры СНД нам паведамілі, што гэтае пытанне пакуль не ўключанае ў папярэдні парадак дня. Па словах в.а. выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні, «у цяперашняй складанай абстаноўцы» галоўным пытаннем застаецца стварэнне зонаў свабоднага гандлю і рэарганізацыя апарату СНД. Дарэчы, кандыдатуры на пасаду сакратара вылучаныя Расіяй, Украінай, Азербайджанам і нашай краінай. Сам Каратчэня пакуль лічыць за лепшае заставацца на сваёй пасадзе першага намесніка. Заўтра плануецца правесці саміт кіраўнікоў урадаў краінаў СНД і міністраў замежных справаў. У штаб-кватэры спадзяюцца, што расійскія прэм'ер і міністр вернуцца да гэтага часу са сваёй міратворчай паездкі ў Югаславію. Беларускі бок спрабуе адцягнуць увагу кіраўнікоў краінаў ад справаў Садружнасці, якой пагражае канчатковы развал, і аб'яднаць былыя савецкія рэспублікі ў антынатаўскую групоўку. Першы віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Васіль Далгалёў, вядомы інтэгратар, заявіў, што ўдары NATO па Югаславіі «прымушаюць Беларусь у многім перагледзець знешнюю і ўнутраную палітыку». Аднак як паведамілі ў прэс-службе міністэрства замежных справаў, ні зброя, ні ваенныя спецыялісты ў Югаславію пакуль не накіраваныя. Плануецца толькі пастаўка гуманітарнага грузу, характар якога ўзгадняецца з югаслаўскім бокам. Сітуацыю ў Югаславіі працягвае адсочваць беларускі пасол, які перажыў бамбёжкі ў Бялградзе. Затое, паводле папярэдніх дадзеных, дадому вяртаюцца 19 беларускіх назіральнікаў, якія знаходзіліся ў Косаве ў складзе місіі АБСЕ. Спачатку іх эвакуявалі ў Македонію, а цяпер — на радзіму.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

ПАРТЫІ

## Бунт маладых сацыялістаў

**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай моладзі «Маладая Грамада» (БСДМ «МГ») Сяргей Марцэлеў аб'явіў аб сваёй адстаўцы 28 сакавіка на IV з'ездзе БСДМ «МГ».**

Марцэлеў лічыць, што Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя на чале з Мікалаем Статкевічам праводзіць памылковую палітыку ў адносінах да БСДМ «МГ», і прапанаваў удзельнікам з'езда разгледзець новую канцэпцыю развіцця арганізацыі. На ягоную думку, БСДМ «МГ» павінна быць ператвораная ў Маладзёжны сацыял-дэмакратычны рух, які б аб'ядноўваў некалькі розных арганізацыяў, кожная з якіх будзе займацца вырашэннем канкрэтных сацыяльных праблемаў. Адначасова з лідэрам «Маладой Грамады» ў адстаўку падаў і ягоны намеснік па працы з рэгіёнамі Сяргей Пялеса. Дарэчы, неўзабаве пасля адкрыцця з'езд быў спынены па патрабаванні кіраўніка справамі ЦК БСДП (НГ) Анатоля Сідарэвіча. Кіраўнік справамі заявіў аб нелегітымнасці гэтага мерапрыемства з-за адсутнасці персанальных спісаў прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацыяў. У выніку з'езд ператварыўся ў пашыранае паседжанне Цэнтральнай Рады БСДМ «МГ». Рада прыняла рашэнне перанесці з'езд на 18 красавіка. Да гэтага тэрміну С.Марцэлеў застанецца выконваючым абавязкі старшыні «Маладой Грамады».

*БелаПАН*



ЧУТКІ ПАЦВЕРДЗІЛІСЯ

***Надрукаваная ва ўчарашнім нумары інфармацыя аб вывешаных у Мінску бел-чырвона-белых сцягах — пацвердзілася. У аўторак зранку можна было назіраць больш за сотню нацыянальных палотнішчаў, якія віселі ў самых розных частках горада. Невядомыя маладыя патрыёты ўчынілі акцыю нават над рэдакцыяй «Вячэрняга Мінска» і выканкамам Савецкага раёна.***

***Рэдакцыяй былі атрыманы здымак з адным з момантаў акцыі.***

## БХК сидит на чемоданах...

**Белорусский Хельсинкский Комитет, возможно, доживает в Беларуси последние дни. В течение двух недель эта правозащитная организация получила из министерства юстиции два предупреждения.**

Первое предупреждение было вынесено 10 марта на основании того, что в помещении гомельского отделения БХК были обнаружены листовки, призывающие граждан идти на выборы президента 16 мая.

Второе предупреждение явно вытекает из первого. 25 марта минюст был глубоко возмущен тем, что злополучное гомельское отделение не зарегистрировано. Между тем, по уставу БХК такая регистрация не предусмотрена. Сам Хельсинкский комитет первое предупреждение ставит в вину председателю «теневого» Центризберкома Виктору Гончару, поскольку он временно оставил листовки революционного характера в офисе правозащитной, но не политической организации. Второе предупреждение, по их словам, уже говорит о желании властей ликвидировать Хельсинкское движение в Беларуси. Во всяком случае, БХК готов к тому, что его закроют. На сегодняшний день БХК выполняет роль своеобразного курьера, передающего за рубеж информацию о правонарушениях в республике. Похоже, официальным властям это показалось лишним.

**Наталья РАДИНА**

## Знялі начальніка Камароўкі

**Распараджэннем прэзідэнта Беларусі Віктар Раманенкаў вызвалены ад пасады дырэктара сталічнага Камароўскага рынку.**

Дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства «Мінскі Камароўскі рынак» Віктар Раманенкаў распараджэннем прэзідэнта А.Лукашэнкі вызвалены ад займаемай пасады. Яму не дапамагла нават паказная адданасць ідэям і падтрымка палітыкі, праводзімай беларускім прэзідэнтам. Нагадаем, што былы дырэктар Камароўкі заснаваў і выдаваў адыёзную газету пад назвай «Славянскі набат», а таксама часта прымушаў працаўнікоў рынку ўдзельнічаць амаль ва ўсіх мітынгах і дэманстрацыях, якія праводзілі ўлады ці пракамуністычныя партыі і рухі.

Тым не менш Віктар Раманенкаў зняты з пасады, як адзначаецца ў дакуменце, «за неналежнае выкананне службовых абавязкаў, непрыняцце захадаў па наведзенні навіннага парадку і выкаранення наяўных недахопаў, ігнараванне рашэнняў Камітэта дзяржаўнага кантролю і іншых дзяржаўных органаў па пытаннях павышэння эфектыўнасці функцыявання рынку».

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, Язэп СІНІЦКІ**

## Выбары без выбару

**Выбары ў мясцовыя саветы Брэсцкай вобласці практычна ва ўсіх сельскіх акругах будуць безальтэрнатыўнымі.**

1.065.461 жыхар Брэсцкай вобласці могуць узяць удзел у выбарах у мясцовыя Саветы, якія адбудуцца сёлета 4 красавіка.

Як паведамілі ў абласной тэрытарыяльнай камісіі па выбарах, на 60 месцаў у абласавеце прэтэндуюць 134 чалавекі, на 599 месцаў у райсаветах — 688 кандыдатаў, на 139 месцаў у гарадах абласнога падпарадкавання — 315 чалавек, за месцы ў 73 акругах гарадоў раённага падпарадкавання будуць змагацца 315 кандыдатаў. Практычна ва ўсіх сельскіх акругах будуць праходзіць безальтэрнатыўныя выбары.

У большасці сваёй кандыдаты прадстаўляюць бюджэтную сферу і дзяржаўныя органы кіравання; немалой колькасцю прадстаўлены працаўнікі прамысловых прадпрыемстваў, шмат хто з прэтэндэнтаў ужо з'яўляліся дэпутатамі мінулага склікання. Кожны трэці кандыдат у дэпутаты — жанчына. Сярод кандыдатаў ёсць каля сотні беспрацоўных.

З 30 сакавіка могуць галасаваць усе тыя, хто не будзе мець магчымасці прыйсці на выбарчыя ўчасткі 4 красавіка. Як вядома, выбары будуць лічыцца прайшоўшымі, калі ў іх возьмуць удзел больш за палову выбаршчыкаў. У сувязі з чым мясцовыя апазіцыянеры заклікаюць байкатаваць выбарчую кампанію. Шматлікія грамадскія арганізацыі абласнога цэнтра рэгіструюць сваіх назіральнікаў на участках для правядзення выбараў. Каардынуе працу грамадскіх назіральнікаў прадстаўнік камітэта выбаршчыкаў Украіны Раман Кашавы.

*БелаПАН*

## Амерыка стрымлівае яўрэйскую міграцыю

**Кіраўнікі буйнейшых яўрэйскіх арганізацыяў мяркуюць, што сёлета ў ЗША з краінаў былога Савецкага Саюза прыедзе ад 5 да 7 тысяч чалавек.**

Сем гадоў таму была зафіксаваная рэкордная лічба — 47.000 яўрэйскіх імігрантаў. Такім чынам, нягледзячы на рост антысемітызму і эканамічны крызіс, яўрэйская іміграцыя ў ЗША з краінаў былога Савецкага Саюза рэзка ўпала за апошнія гады.

Такому рэзкаму падзенню ёсць шмат прычынаў, асноўная з якіх заключаецца ў тым, што меншая колькасць яўрэяў падпадаюць пад умовы праграмы бежанцаў, заснаванай на ўз'яднанні сем'яў. Справа ў тым, што, за нязначным выключэннем, дазвол на ўезд у Злучаныя Штаты атрымліваюць толькі яўрэі, якія маюць там родных.

Амерыканская яўрэйская абшчына за апошнія 10 гадоў абуладкавала на новым месцы 250.000 яўрэяў. За гэты час 80 працэнтаў тых, хто звярнуўся за спецыяльным статусам, яго атрымалі. Аднак працэнт адмоў, якія дае Служба іміграцыі і натуралізацыі *(INS)*, дасягнуў у апошні час рэкордных велічыняў. Мінулым летам *INS* адмаўляла ў прадастаўленні статуса кожным двум з трох чалавек, якія за ім звярнуліся. Такое становішча яўрэйскія лідэры лічаць трывожным. Тыя, хто атрымаў адмову, могуць уехаць у ЗША па статусе *«parolee»*, які не прадугледжвае ніякай федэральнай дапамогі на працягу прынамсі пяці гадоў — пакуль імігрант не становіцца грамадзянінам.

*БелаПАН*

СУДОВЫ ПРАЦЭС

## Справа Плешчанкі развалілася, як бюст генералісімуса

**Працэс над Уладзімірам Плешчанкам закончыўся вызваленнем апазіцыянера ў зале суда. Плешчанка адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе, ягоная справа адпраўленая на дадатковае расследаванне.**

Назіральнікі за працэсам лічаць, што законных шанцаў на «адраджэнне» справы супраць віцебскага апазіцыянера няма. Уладзімір Плешчанка збіраецца падаць у суд на следчых, якія, на яго думку, «сфальсіфікавалі» справу.

Падставаў казаць менавіта пра фальсіфікацыю сапраўды дастаткова. Тое, як «бліскуча» распуталі віцебскія пінкертоны гісторыю са знікненнем бюста Суворава, магчыма, трапіць у падручнікі па крыміналістыцы ў падраздзел «на памылках вучымся».

Нагадаем, з чаго ўсё пачалося. Ноччу на 31 жніўня мінулага года ў Віцебску знік з пастамента бетонны бюст Суворава, усталяваны яшчэ ў 1952 годзе. «Генералісімуса» вагой 350 кг. знайшлі недалёка ад месца знікнення, у дварах. Адразу была ўзбуджаная крымінальная справа, а праз два дні міліцыянты выйшлі на след «магчымага злачынцы». Ім аказаўся старшыня віцебскай Рады БНФ «Выбар» Уладзімір Плешчанка. Яго абвінавацілі адразу па двух артыкулах — злоснае хуліганства і пашкоджанне гістарычных помнікаў. Плешчанка не прызнаў сябе вінаватым, хаця і заявіў, што «разбурэнню бюста акупанта вельмі рады». Віцебскія следчыя патрацілі сем месяцаў на пошукі доказаў ягонай віны. Як зараз высветлілася, спрацавалі яны на «двойку».

«Праколы» следчых пачалі вылазіць з першага дня працэсу, на якім старшынстваваў суддзя Аляксандр Абашын. Спачатку высветлілася, што Плешчанка не атрымаў у поўным аб'ёме абвінавачага заключэння. Прыйшлося адкладаць працэс і ўсё пачынаць спачатку. Потым аказалася, што з парушэннем закона былі складзеныя пратаколы канфіскацыі доказаў і агля-



ду месца здарэння. Пад адным з пратаколаў нават не былі своечасова пастаўленыя подпісы панятых, што пацвердзіў адвакат Уладзімір Шайкевіч. А «дабіла» суддзяў гісторыя з рэчавымі доказамі. Удзел Плешчанкі ў разбурэнні помніка следчыя даказвалі з дапамогай адбітка бота, які, быццам бы, належаў Плешчанку. Гіпсавы адбітак і пара ботаў, канфіскаваных у апазіцыянера, былі прад'яўленыя суду. Адвакат не паляніўся і папрасіў параўнаць гіпсавы адбітак з рэальным ботам. Паміж імі аказалася розніца ў 4,5 сантыметры! Як кажуць, *finita la camedia.*

«Гэта была яўная спроба ўладаў сфальсіфікаваць крымінальную справу супраць палітычнага праціўніка рэжыму», — гэтак пракаментаваў падзею кіраўнік праваабарончай арганізацыі Вясна-96 Алесь Бяляцкі. Ён назіраў за працэсам і зрабіў наступную выснову адносна метадаў віцебскіх следчых: «Калі яны так неабачліва збіраюць доказы супраць вядомых палітыкаў, можна ўявіць, як «лепяцца» справы простых грамадзянаў! За што ж тады сядзяць многія людзі ў нашых турмах?» — задаецца пытаннем праваабаронца.

Уладзімір Плешчанка пасля 7 месяцаў, праведзеных у турме, адпачывае пад Віцебскам у вясковым доме. Плешчанка ўпэўнены, што ягоная справа «рассыпалася» канчаткова. Па завяршэнні ўсёй гісторыі ён намераны падаць у суд на «ганіцеляў».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



НАВІНЫ
Тэл. 210-02-54
Т/ф. 236-89-40
Пэйдж. 211-85-85 абанент 353
ІКП «ІНДАР»
Тэл. 266-36-36
Т/ф. 266-13-43
Вул.Кнорына-1, корп.3, оф.32

# Гульні з NATO

Тры праваслаўныя дзеячы з Беластока накіравалі ліст прэзідэнту А. Квасьнеўскаму, выказаўшы сваю занепакоенасць авіянападамі *NATO* на Новую Югаславію, цярпеннямі сваіх адзінаверцаў. І гэта нармальна. Але з такой жа спасылкай — на праваслаўную веру — жырыноўцы і баркашоўцы ў першы ж дзень абязвечылі ў Маскве будынак амерыканскага пасольства. Большасць з іх была нападпітку, а некаторыя нават мачыліся на «амерыканскія» сцены, як паведаміў карэспандэнт Польскага радыё. Хіба сапраўдны вернік здольны на падобнае дзікунства?

На адным з вярбоўных пунктаў у Маскве, дзе адбываецца запіс ахвотных ваяваць за сербаў, паявіўся надпіс-пагроза: «Пачалося ў Югаславіі, закончыцца—у Польшчы». Аказваецца, меў рацыю расійскі праваабаронца С.Кавалёў, калі папярэджваў чатыры гады назад падчас бамбавання чачэнскай сталіцы: сёння — Грозны, заўтра — Гродна, а паслязаўтра — Варшава... Пацвярджаюць гэта і заявы расійскіх палітыкаў, якія раптам сабраліся вярнуць ядзерную зброю ў Беларусь. Навошта? Каб ўратаваць Маскву, скіраваўшы на нас магчымы ўдар *NATO*, як калісьці— чарнобыльскую хмару? З цынічнай лёгкасці, з якой робяцца падобныя заявы, вельмі відавочна вынікае, што мы, беларусы, для расійскіх палітыкаў усяго толькі — «гарматнае мяса», а сама Беларусь — проста казырная карта ў азартнай гульні.

Зрэшты, перш за ўсё нашая краіна — ігральная карта для самога Лукашэнкі. Гэта менавіта ён тры гады таму імкнуўся затрымаць вывад з Беларусі апошніх ядзерных ракетаў, а потым рэгулярна паўтараў, што іх трэба вярнуць назад. Стрыманая рэакцыя з ягонага боку на цяперашнія заявы расейцаў, якія таксама захацелі зрабіць з Беларусі парахавую бочку, можа мець наступныя тлумачэнні. Па-першае, ядзерны шантаж патрэбны быў самому Лукашэнку асабіста: каб узмацняць сярод расійскага насельніцтва сваю рэпутацыю адзінага абаронцы ад «натаўскай ваеншчыны» і каб нагадаць лішні раз пра сябе Захаду. Цяпер яму, напэўна, вельмі не спадабалася, што «ядзерны козыр» з ягоных рук выхапіў «старэйшы брат». А па-другое, сёння Лукашэнка можа адчуваць сапраўдны страх перад ЗША, якое пераважае ў *NATO*. Той жа С.Мілошавіч асабіста Штатам нічога кепскага не зрабіў, а вось А. Лукашэнка мае цалкам канкрэтныя «грахі»: збіты паветраны шар, выгнанне з рэзідэнцыі пасла гэтай супердзяржавы і ў рэшце рэшт — свае «ядзерныя пагрозы» ў адрас *NATO*. Так што Лукашэнку зараз не да бравады.




Істэрыя «праваслаўнай салідарнасці» ў краіне атэістаў, у якую даўно ператварылі Расію камуністы, выклікае скепсіс. Так, сувязі рускіх з сербамі — традыцыйныя, асабліва ў XIX ст. Нават у «Траўніцкай хроніцы» І.Андрыча ўспамінаецца аб тым, што рускія афіцэры рыхтавалі для барацьбы супраць туркаў сербскіх паўстанцаў. Для Расіі, якая сама вяла войны з Турцыяй за пашырэнне сваіх межаў, такія дзеянні былі цалкам апраўданымі. Сербы былі патрэбныя ёй як саюзнікі. Сёння, як быццам, Расія не ваюе з ЗША, Англіяй або ФРГ, а наадварот — усё выпрошвае ў іх грошы. Хутчэй пачуцці Масквы да Бялграда нагадваюць прыязнь братоў у няшчасці, якія страцілі свае былыя імперскія абшары — СССР і СФРЮ.

Калі ўдумацца, абуранасць Б.Ельцына налётамі на Юга-славію даволі двухсэнсоўная. Атрымліваецца, што ён «ваяўніча пакрыўдзіўся» за Мілошавіча, якому не даравалі Косава так, як яму даравалі Чачню. Варта пры гэтым нагадаць, што расейцы не наносілі нейкіх канкрэтных удараў па ваенных аб'ектах, як робіць *NATO*, а проста зраўнялі з зямлёю чачэнскую сталіцу, у якой да вайны было паўмільёна жыхароў, і знішчылі нямала мірнага насельніцтва, у тым ліку сваіх жа праваслаўных, рускіх.

Адносіны Крамля да Югаславіі раней, па сутнасці, заўсёды былі альбо кепскімі, або прахалоднымі. Спачатку югаславы прытулілі ў сябе вялікую колькасць белагвардзейцаў і цывільных эмігрантаў. Потым, пасля часовага пацяплення ўзаемаадносінаў, Сталін лічыў Ціта адным з горшых ворагаў СССР. Пазней Хрушчоў паспрабаваў змяніць сітуацыю. Савецкія газеты нават друкавалі паведамленні ТАСС аб паляўнічых трафеях Хрушчова і Ціта, якія былі імі здабытыя падчас супольнага адпачынку ў крымскіх гарах. Пры Брэжневе адносіны зноў пагоршыліся. Цяпер толькі ўпартасць Масквы, яе пазіцыя маўклівага супрацьстаяння *NATO*, сталі падтрымкай для Мілошавіча, калі ён адмовіўся падпісаць пагадненне аб Косаве. На гэта ўказваюць розныя палітыкі, у тым ліку польскі прэзідэнт.

Дарэчы, налёты *NATO*, паводле апытання, падтрымліваюць 59% палякаў, супраць — 34%. Некаторыя палякі лічаць, што ў Еўропе патрэбны «жандар». Не такі, якім з'яўлялася ў XIX ст. Расія, якая душыла нацыянальна-вызваленчыя паўстанні або дэмакратычную рэвалюцыю ў Венгрыі. Сёння ён якраз павінен сачыць за праяўленнямі дыктатарства, парушэннямі правоў чалавека.

Суседства з Беларуссю, дзе кіруе недэмакратычны рэжым, вельмі падштурхоўвае ў бок *NATO* і Літоўскую Рэспубліку. Усё рухаецца да таго, што нам з кожным годам цяжэй будзе трапіць да суседзяў-палякаў або літоўцаў, якія не выбіраюць сабе сябра з сумнеўнай рэпутацыяй, а імкнуцца быць разам з усёй, прабачце за банальнасць, цывілізаванай Еўропай. Замест гэтага нам было нядаўна паабяцана, што праезд у Югаславію можа стаць для беларусаў бязвізавым. Дзякуй за «мядзведжую паслугу»! З нагоды апошніх падзеяў яшчэ больш адзыёзна і нават небяспечна выглядае перспектыва далучэння ў нейкай форме югаславаў да гэтак званага Саюза РБ+РФ. Гэта, па абяцаннях мінскіх кіраўнікоў, павінна адбыцца на сумеснай руска-беларускай парламенцкай сесіі, якая адбудзецца ў траўні ў нас у Гродне.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*СРЕДА ОБИТАНИЯ*

# Любовь к экологии коренится в мусоре

**Минский научно-исследовательский институт социально-экономических проблем провел опрос общественного мнения на предмет анализа экологической обстановки в столице и возможности участия жителей в охране окружающей среды.**

Как оказалось, большинство опрошенных считают экологическую обстановку в районе своего проживания вполне подходящей (42% — удовлетворительной, 26% — нормальной, 4% — хорошей). Как неблагоприятную или очень неблагоприятную среду своего обитания оценили соответственно 8% и 20%.

Основные «неудовлетворительные» факторы — это загрязнение атмосферного воздуха (46% респондентов), плохое качество питьевой воды (37%), санитарное состояние дворов и прилегающих территорий (36%), недостаточное озеленение и санитарное состояние зеленых зон (24%), а также загрязнение водоемов (21%). Основными источниками загрязнения являются транспорт, движущийся по улице (48%), транспорт на стоянках возле рынков, магазинов и т.п. (37%), выбросы промышленных предприятий и ТЭЦ (34%). Дефицит общественных туалетов и состояние мест сбора мусора раздражают респондентов больше всего: 41% и 37% соответственно. Отсюда вывод: тот, кто возьмется решить эти проблемы, сделает для народа больше всех.

Что касается мусора, то, по мнению большинства опрошенных (56%), необходимо уже сейчас начинать раздельный сбор бытовых отходов (пищевых, пластиковых, металлических, стеклотары, батареек и др.), как это делается во многих странах. Подавляющее большинство (82%) указало, что их волнует качество пищевых продуктов. В первую очередь, соблюдение сроков хранения (67%), радиоактивное загрязнение (66%), наличие нитратов, нитритов, пестицидов (55%). Домовладельцы, проживающие в частном секторе, больше всего хлопот испытывают с избавлением от отходов канализации (79%) и вывозом мусора (40%).

Три четверти опрошенных в качестве личного вклада в охрану окружающей среды готовы поддерживать чистоту у себя в подъезде, во дворе и т.д. Более половины (52%) респондентов хотели бы помочь природоохранным органам. Причем 42% видят такую помощь в личном экологически грамотном поведении, 34% — в воспитании у детей бережного отношения к природе, 26% готовы к участию в конкретных природоохранных мероприятиях. Почти половина респондентов (46%) не удовлетворены своей информированностью об экологической обстановке в городе, а 80% считают, что для улучшения этой ситуации необходимы постоянные рубрики в СМИ.

В качестве мер борьбы с частными лицами, которые наносят вред природе, абсолютное большинство отдает предпочтение мерам карательным перед воспитательными. Общественное мнение высказывается в пользу экономических санкций, а значительная часть допускает применение административного ареста и привлечение к уголовной ответственности.

Каждый сотый респондент принадлежит к какой-либо экологической организации. Но ряды «зеленых» имеют возможность многократно пополниться — каждый десятый хотел бы вступить в такую организацию.

*«Зеркало», 1999, № 2.*

*НАЛОГИ*

# Ищу евро

То, что люди несовершенны, открылось мне давно, но больно воспринимать, что это несовершенство проявляется в виде бестолковщины или безмозглости. Посудите сами, недавно представитель ГАИ во всеуслышанье объявил о введении новой формы обязательного страхования для всех, кто захочет сесть за руль авто. Такое требование, ставшее реальностью на Западе, вероятно, будет полезно и у нас. Вот только резанула слух фраза, что мы должны будем оплачивать страхование в новой валюте — евро. И тут же страж порядка на дорогах добавляет, дескать, оцените сами, сколько это будет в белорусских рублях.

Я предлагаю в развитие этой очередной заколдобины нашей жизни во всех печатных изданиях поместить три фотографии. Первая — автора идеи о расчете в евро, вторая — того, кто утвердил эту муть, и третья — жителя Беларуси, спокойно ответившего на вопрос, сколько потребуется бумажных зайцев. Сомневаюсь, что только глупостью объясняется необходимость оплаты на таможне недавно в экю, а сейчас — в евро, техосмотра машины — в рублях, бензина — в долларах, а страхования — опять в евро. Казалось бы, зачем нашему люду такое насилие над головой — сразу переводи евро в доллары, а последние в рубли, да и все тут. Но и на таком пути черт ногу сломает. Попробуй разберись в действующих одновременно четырех курсах доллара.

В общем, как тараканы обладают геном неистребимости, так мы носим в себе ген бестолковщины. И, возможно, сам по себе он не был бы так страшен, если бы не дополнялся геном бессовестности и невежества. Стоит ли удивляться, почему к нам едут, как в страну чудаков, подобно тому, как люди, в надежде увидеть чудачества, идут в цирк? А может быть, в развитии страхования ограничиться простой мерой — прежде чем требовать умственных вывертов от остальных граждан, предложить самим работникам ГАИ пройти тесты на полное понимание того, сколько будет стоить операция по растаможиванию машин или страхованию в белорусских рублях, и где, наконец, взять эти самые евро (а также доллары).

**Анатоль КУРАШ**

*БІЗНЕС*

# Статутныя фонды заб'юць прадпрымальнікаў

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Да 1 снежня 2001 года ўсе беларускія прадпрыемствы павінны прывесці свае ўстаноўчыя дакументы ў адпаведнасць з новымі патрабаваннямі, даведзенымі Указам прэзідэнта РБ ад 16 сакавіка N 11 «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненні дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання».**

**Інакш кажучы, суб'ектам гаспадарання належыць прайсці яшчэ адну перарэгістрацыю, паколькі Указ устанавіў новае Палажэнне аб іх дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі. Новы нарматыўны дакумент тычыцца юрыдычных асобаў — камерцыйных і некамерцыйных арганізацыяў, а таксама прадпрымальнікаў-індывідуалаў.**

Чытач, магчыма, помніць, што ў верасні мінулага года Аляксандр Лукашэнка даслаў у кіруючыя інстанцыі тэлеграму, згодна з якой рэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання ў Беларусі была прыпыненая. Як тады сцвярджалі, зроблена гэта было дзеля таго, каб «акараціць» камерсантаў-пасрэднікаў, якія нібыта п'юць кроў прадпрыемстваў вытворчага сектара і спажыўцоў, а заадно зрабіць немагчымым з'яўленне «фірмаў-аднадзёнак», якія ўзнікаюць, каб атрымаць крэдыты ды іншыя прэферэнцыі, і знікаюць, каб атрыманыя грошы хуценька прыхаваць.

З гэтай нагоды паміж прадстаўнікамі дзелавых колаў і дзяржорганамі, перш за ўсё фіскальнымі, успыхнула паленіка. Апошнія, перш за ўсё ў асобе Дзяржаўнага падатковага камітэта, актыўна настойвалі на адмене прынцыпу абмежаванай адказнасці, а таксама патрабавалі значна павялічыць памеры статутнага фонду.

Зразумела, грошы для дзяржавы — гэта што вада для падарожніка ў пустыні. Таму мінімальны памер статутнага фонду на самой справе рэзка павялічаны. Цяпер, каб адкрыць акцыянернае таварыства, трэба будзе заплаціць казне 10.000 мінімальных заработных платаў (5 мільярдаў рублёў па стане на сёння), закрытых акцыянерных таварыстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю — 3.000 МЗП, унітарных (што належаць адной асобе) прадпрыемстваў — 750 МЗП, таварыстваў з дадатковай адказнасцю, гаспадарчых таварыстваў, вытворчых кааператываў, казённых прадпрыемстваў, фермерскіх гаспадарак — 50 МЗП.

Такі вялікі памер статутных фондаў практычна пазбаўляе малое прадпрымальніцтва магчымасці карыстацца прывілеямі арганізацыйна-прававых формаў, якія прадугледжваюць абмежаваную адказнасць іх заснавальнікаў. Таму што рэальна заснаванне таварыства з абмежаванай адказнасцю (ТАА) у Беларусі будзе каштаваць значна больш, чым у Літве ці ў Расіі.

У той жа час субсідыярная (дадатковая) адказнасць заснавальнікаў па абавязацельствах створаных імі юрыдычных асобаў, на ўвядзенні якой настойвалі падаткавікі, устаноўлена толькі на выпадак, калі яна прадугледжаная статутнымі дакументамі, ці калі банкруцтва камерцыйнай арганізацыі будзе наступствам дзеянняў яе ўдзельнікаў.

Таксама значна (з 8 да 20 МЗП) павялічаны памер платы за рэгістрацыю, прычым за рэгістрацыю другой і наступных арганізацыяў давядзецца кожны раз плаціць на 20 працэнтаў болей.

Аўтары ўказа не забыліся і аб адказнасці тых чыноўнікаў, якія займаюцца рэгістрацыяй. У выпадку, калі зарэгістраванае імі прадпрыемства нанясе нейкую шкоду дзяржаўным, грамадскім ці асабістым інтарэсам, яны могуць быць пакараныя штрафам у памеры да 10 МЗП. Так што пільнасць з гэтага боку павінна павялічыцца, а з улікам значнага пашырэння паўнамоцтваў рэгіструючых органаў рэгістрацыя прадпрыемства і зусім робіцца справай суб'ектыўнай.

Указ прэзідэнта прадугледжвае і іншыя патрабаванні (напрыклад, у статуце заснавальнікі павінны ўказваць толькі тыя віды дзейнасці, якія будуць ажыццяўляць, а калі хоць адзін з іх не будзе ажыццяўляцца на працягу паўгода, прадпрыемства можа быць ліквідаванае ў несудовым парадку).

Спіс патрабаванняў да рэгіструемай фірмы, прычынаў для адмовы ў рэгістрацыі і для ліквідацыі можна доўжыць. Але безумоўна адно — гэты дакумент сведчыць аб тым, што жаданне дзяржавы паставіць пад кантроль усіх і кожнага набывае моц. Пры гэтым галоўнае — стварэнне прадпрымальніцтву добрых умоваў для развіцця — сыходзіць на задні план. Як кажуць, так клапаціліся, што разам з бруднай вадой выплюхнулі з начовак і немаўлятка.

